# 25-САКАВІКА НА ЛОНГ АЙЛЭНД



На ўсход ад гарадзкое мяжы Нью Ёрку цягнецца амаль на 200 кілямэтраў вялікі паўабток — Лонг Айлэнд. Адміністрацыйна ён падзелены на два паветы (каўнты): заходні — Нэссаў і ўсходні — Саффолк. Абодвы яны, а асабліва Нэссаў, сяньня ўжо блізу-што суцэльна забудаваныя гарады, дзе жыве каля 2,5 міліёнаў людзей. З увагі на колькасьць жыхарства ды значна вышэйшы ў ім ад сярэдняга працэнт узьдзейнага на эканамічнае і культурнае жыцьцё элемэнту, Лонг Айлэнд мае прыкметную вагу і ў амэрыканскім палітычным жыцьці.

Знайшлося гэтта таксама і крыху сьведамых Беларусаў, што дзеля рэпрэзэнтацыі беларускіх інтарэсаў ды пашырэньня інфармацыяў пра Беларусь зарганізаваліся ў вадзьдзеле Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, аб дзейнасьці якога ў нашай газэце было ўжо колькі зацемак.

З нагоды 50-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі дэлегацыя адзьдзелу ў складзе: старшыні — сп. Ю. Касьцюкевіча, сакратара — сп. Б. Данілюка, скарбніка — сп. К. Вераб'я і сп-ні М. Верабей ды вучаніцы сыботняе беларускае школы Ліды Данілюк, наведала канцылярыю начальніка павету Нэссаў сп. Юджына Г. Нікэрсона, каб быць прысутнай пры падпісаньні ім праклямацыі пра абвешчаньне 25-га сакавіка 1968 году Беларускім Днём у павеце Нэссаў.

Сябры дэлегацыі, зь бел-чырвона-белым сьцягам, ды амаль усе ў беларускай нацыянальнай вопратцы былі сардэчна прынятыя сп. Нікэрсонам і ягонымі памочнікамі. На памятку ўрачыстасьці сп. Нікэрсон зажадаў сфатаграфавацца з усёй дэлегацыяй ды яшчэ асобна зь дзевяцігадовай Лідай Данілюк.

Як сьціплую адзнаку ўдзячнасьці за ягоную прыхільнасьць дэлегацыя даручыла сп. Нікэрсону кружэлку беларускіх песьняў (сям'я сп. Нікэрсона — аматары і калекцыянэры музыкі), а сп-ва Вераб'і перадалі падарак ад сп-ні Аляксандры Верабей — уласнаручна ёю вытканы паясок.

Здымак сп. Ю. Г. Нікэрсона зь Лідай Данілюк з кароткім паясьненьнем быў зьмешчаны ў мясцовай газэце "Gateway" 27-га сакавіка г. г.

Фотаздымак цэлае дэлегацыі із сп. Ю. Ф. Нікэрсонам быў зьмешчаны ў іншай мясцовай газэце "Farmingdale Press" 28 сакавіка сёлета.

Ужо пасьля сьвяткаваньня 25 Сакавіка стала ведамым, што сп. Нікэрсон вызначаны Ньюёркаўскім штатным камітэтам Дэмакратычнае партыі кандыдатам у сэнатары ЗША на сёлетніх выбарах.

**Лонгайлэндзкі**

# 10-АЯ СЭСІЯ РАДЫ БНР

У Нью Ёрку 13 красавіка 1968 г., у 50-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, адбылася юбілейная дзесятая сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. Удзел у сэсіі ўзяў Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык і радныя з амэрыканскіх гарадоў Нью-Ёрк, Нью Брансьвік, Стамфорд, Спрынгфілд, Кліўленд, Дэтройт ды з Канады. Сэктары Рады зь Вялікабрытаніі, Заходняй Нямеччыны й Аўстраліі былі прадстаўленыя пісьмовымі ўпаўнаважаньнямі ды пратаколамі паседжаньняў, праведзеных напярэдадні сэсіі.

Прэзыдэнт М. Абрамчык, які ў канцы леташняга году прыбыў у ЗША з Парыжу, меў магчымасьць аб'ехаць перад сэсіяй беларускія асяродкі ЗША й Канады, прачытаць там даклады пра сучасную міжнародную сытуацыю й стан беларускае нацыянальна-вызвольнае справы ды адначасна пазнаёміцца з апошнімі выявамі беларускага жыцьця ў Амэрыцы й Канадзе. Да сэсіі Прэзыдэнт Абрамчык правёў таксама тыдзень часу ў Вашынгтоне з мэтай абмену там інфармацыямі й высьвятленьня амэрыканскіх палітычных паглядаў на справы Ўсходняе Эўропы.

На парадку дня 10-е сэсіі былі пастаўленыя: справаздача Прэзыдэнта Рады БНР із свае 25-гадовае дзейнасьці, справаздача Сакратарыяту, пытаньне рэарганізацыі Рады (стварэньня Лігі БНР, папраўкі да Статуту Рады), выбары Прэзыдыюму Рады БНР, прыняцьцё пастановаў.

Удзельнікі сэсіі зь вялікім зацікаўленьнем выслухалі справаздачу Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка за пэрыяд ад 1943 году, калі ў цяжкіх умовах вайны й гітлераўскага перасьледу яму давялося пераняць ад Прэзыдэнта Васіля Захаркі паўнамоцтвы Рады БНР. За мінулыя 25 год, сказаў Прэзыдэнт Абрамчык, Рада БНР і беларуская палітычная эміграцыя наагул прарабілі вялізарную работу, як у кірунку ўмацаваньня й пашыраньня беларускіх палітычных кадраў, гэтак і ў кірунку ўсьведамленьня заходніх дзяржаўных дзейнікаў, што да беларускае вызвольнае справы й навязаньня кантактаў у сталіцах заходніх дзяржаваў. Наладжанае таксама трывалкае супрацоўніцтва з прадстаўніцтвамі іншых паняволеных камунізмам народаў.

Сяньня, сказаў Прэзыдэнт Абрамчык, беларуская праблема пастаўленая ў міжнароднай роўніцы, у заходнім сьвеце права беларускага народу на самастойнае дзяржаўнае жыцьцё больш не аспрэчваецца. Галоўнае, што вымагаецца ад нас цяпер, гэта — бязупыннае трыманьне (і пашыраньне) дасюлешніх кантактаў, максымальны ўдзел на міжнацыянальных форумах, як довад актуальнасьці патрэбы вызваленьня Беларусі спад камуністычна-расейскага каляніяльнага рэжыму.

Па справаздачы Прэзыдэнта М. Абрамчыка ды Сакратароў інфармацыі й фінансаў адбылася жвавая дыскусія й абмеркаваньне шляхоў да ўзмацненьня актыўнасьці й камунікацыі між радных, а таксама паміж Сакратарыятам і паасобнымі сэктарамі. Дыскусія гэтая ахапіла сабой і пытаньне реарганізацыі Рады БНР паводля распрацаванага раней ды абмеркаванага на папярэдніх сходах сэктароў праекту гэткае рэарганізацыі.

Вынікам спрэчак была пастанова сэсіі даць ход ініцыятыве стварэньня Лігі БНР і падртымаць ейнае паўстаньне й разьвіцьцё ўсімі магчымымі спосабамі. Ідэя Лігі БНР мае на мэце стварыць шырэйшую грамадзкую арганізацыю, якая сваймі сябрамі й грашовымі рэсурсамі ўзмоцніць палітычна - вызвольную дзейнасьць БНР. Сэсія заклікае ўсіх радных, як і ўсіх наагул Беларусаў бяз увагі на іхныя партыйныя разыходжаньні, падтрымаць ідэю Лігі БНР, як шлях да папаўненьня й кансалідацыі беларускае нацыянальна-вызвольнае справы.

10-я сэсія Рады БНР абрала Прэзыдыюм Рады ў наступным складзе: інж. М. Абрамчык — Старшыня, д-р Жук-Грышкевіч — першы заступнік, д-р Ул. Набагез — другі заступнік, праф. Ант. Адамовіч — сябра Прэзыдыюму сп. А. Шукелайць — сябра Прэзыдыюму.

Сэсія даручыла новаабранаму Прэзыдыюму Рады БНР апрацаваць рэзалюцыю што да стану беларускага нацыянальна-вызвольнага руху й падаць яе ўва ўсе зацікаўленыя інстанцыі.

---

тысячаў Беларусаў з вышэйшай асьветай і сотні тысячаў з асьветай сярэдняй падаюць стуль галасы свайго палкага патрыятызму й тугі за бацькаўшчынай, як і мы эмігранты. Мы чулі таксама, як зь беларускіх пасёлкаў і мястэчкаў Сібіру й Казахстану ў марозную завею людзі сотнямі ляцелі за тысячы кілямэтраў на спатканьне гастрольнай беларускай мастацкай трупы, каб пачуць родную песьню ды неяк дастаць беларускую кніжку. Яны таксама чакаюць павароту на бацькаўшчыну, як чакалі беларускія ваенныя ўцекачы ў 1917-18 гадох.

Вонкавыя абставіны сяньня для нас таксама больш спрыяльныя. 14 рэспублікаў нерасейскіх народаў СССР — гэта натуральна-прыродныя нашыя саюзьнікі. Кажны з гэтых народаў вядзе гэтак-жа, як і беларускі народ, зацятае змаганьне з тым самым тыранам. Восем г. зв. сатэлітных народаў, што ў 1917-18 г. былі ў бальшыні ня толькі абыякавымі, а й актыўна варожымі да нашых вызвольных імкненьняў, як Польшча або Румынія, сяньня зразумелі патрэбу саюзу з намі.

На сусьветным форуме, улучна з наймагутнейшымі дзяржавамі, права беларускага народу на ягоную сувэрэннасьць больш ужо **не аспрэчваецца.** Больш таго, у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў усімі ейнымі сябрамі Беларусь вызнаецца **„дэ юрэ" як сувэрэнная й незалежная дзяржава.** Было-б абсурдам дапускаць думку, што з упадкам бальшавізму дэмакратычны сьвет адкліча гэтае вызнаньне толькі таму, што ў Задзіночаных Нацыях зьявіцца запраўднае беларускае дэмакратычнае прадстаўніцтва заміж сяньняшніх бальшавіцкіх падгалоскаў.

Справа беларускага нацыянальна-вызвольнага змаганьня й спачуваньня яму з боку культурных, навуковых і дзяржаўных колаў Вольнага Сьвету таксама ня можа быць прыраўноўваная да сытуацыі з 1917-18 гадоў. Калі ўраду БНР у 1918 і наступных гадох у сваіх мэмарандумах і нотах, адрысаваных амэрыканскаму або ангельскаму ўраду, трэба было пачынаць зь геаграфіі й гісторыі Беларусі, пераконваць, што Беларусы асобны народ з апрычонай мовай і культурай, і толькі пасьля гэтага прыступаць да самога зьместу мэмарандуму, дык сяньня гэта ўжо было-б больш чымся непатрэбным, навет сьмешным. Сяньня, прыкладам, на Лёнданскім унівэрсытэце кажны студэнт можа студыяваць і складаць экзамены зь беларускай мовы гэтак сама, як з мовы нямецкай ці расейскай. У Амэрыканскім Кангрэсе штогоду ў дзень нашага нацыянальнага сьвята сэнатары й кангрэсмэны стоячы выслухоўваюць малітву нашага Архіяпіскапа за беларускі народ, за ягонае вызваленьне й незалежнасьць. Больш таго, дзесяткі сэнатараў і кангрэсмэнаў выступаюць у Кангрэсе ў гэты дзень з палкімі прамовамі ў вабароне нацыянальных і палітычных правоў беларускага народу.

У вызвольных змаганьнях некаторых народаў палітычныя эміграцыі часамі адыгрывалі дэцыдуючую ролю, як, прыкладам, польская й чэхаславацкая эміграцыя ў Першую сусьветную вайну або дэголеўская француская эміграцыя ў часе Другое сусьветнае вайны. Сяньняшняя беларуская палітычная эміграцыя ўжо зрабіла свой паважны ўклад у нашую вызвольную справу, галоўным чынам інфармуючы людзей Вольнага Сьвету пра Беларусь і заваёўваючы ў іх сымпатыі й зразуменьне для нашае нацыянальна-вызвольнае ідэі. Урад БНР за пэрыяд свае экзыльнае дзейнасьці можа сьмела заявіць, што ў цэлым шэрагу ягоных кантактаў і захадаў перад урадавымі і ўплывовымі палітычнымі дзейнікамі заходніх дзяржаваў былі дасягненьні гістарычнага значаньня.

Рэасумуючы вышэй сказанае, неабходна зрабіць наступныя высновы:

1. Беларускі нацыянальна-вызвольны рух за апошніх 50 год наглядна прадэманстраваў перад цэлым сьветам нязломную волю беларускага народу ў ягоным імкненьні да дзяржаўнае незалежнасьці свае бацькаўшчыны.

2. Не зважаючы на нялюдзкі тэрор акупанта, на страты сотняў тысячаў беларускай інтэлігенцыі й міліёнаў беларускага народу, беларускі нацыянальна-вызвольны рух ня толькі ня страціў свае патэнцыі й дынамікі свайго супраціву, а, наадварот, за гэтых 50 год значна ўзмоцніўся й пашырыўся.

3. Этап нацыянальна-культурнага адраджэньня ўжо поўнасьцяй завершаны й перайшоў у этап нацыянальна-вызвольнага змаганьня. Мы поўнасьцяй сталі ў ваднэй роўніцы зь іншымі паняволенымі бальшавізмам народамі ўлучна нат з народамі сатэлітных краінаў, хоць палітычная сытуацыя гэтых апошніх значна лепшая.

4. Справа вызваленьня Беларусі ад бальшавізму сяньня ня ёсьць праблемай вылучна беларускай, а й праблемай міжнародна-сусьветнай. Калі будзе зьнішчаны бальшавізм, справа незалежнасьці Беларусі будзе аўтаматычна і ў ваднолькавай роўніцы разьвязаная з усімі іншымі паняволенымі сяньня народамі.

Няма ніякага сумлеву, каб беларускі народ на бацькаўшчыне, выявіўшы гэтулькі жыцьцяздольнасьці, гарту й наважанасьці ў змаганьні, зьняверыўся ў чаканьні таго мамэнту, калі паўторыцца магутны Купалаў кліч

На Сход, на ўсенародны, грозны,
бурны Сход
Ідзі аграблены, закованы народ!...
Н пакажы на курганы і на
крыжы...

Тым ня менш няма сумлеву, што беларуская эміграцыя адмовіцца ад нашага нацыянальна-вызвольнага руху й ня будзе выконваць ролі амбасадара свайго народу ў Вольным Сьвеце — трымаць падняты наш бел-чырвона-белы сьцяг.

Няма таксама сумлеву, што на той няміінучы Сход наш аграблены народ зь яшчэ большым імпэтам кінецца з усіх закуткаў бальшавіцкае імпэрыі і яшчэ больш фанатычна будзе абараняць свае правы на незалежнасьць. Сяньня для кажнай другой, калі наагул не для кажнай сям'і Беларусаў тыя курганы й крыжы ўжо будуць ня курганамі гістарычнымі, пра якія згадваў Купала, а курганамі й крыжамі зусім яшчэ сьвежымі, пад якімі зьляглі іхныя сыны й дочкі ад зьверскай рукі бальшавіцкіх чэкістых.

А калі наступіць такі мамэнт, ніводзін прарок прадбачыць сяньня не патрапіць. Бясспрэчна аднак, што на мамэнт такі не давадзецца чакаць наступных 50 год, бо ўсяму сьвету сяньня ясна, што панявольнік наш пад напорам усіх паняволеных нерасейскіх народаў, а апошнім часам і расейскага народу, трусьліва й разгублена пачаў адступаць. А тыран, як правіла, як няўхільны закон, ніколі не адступае, калі пэўны ў свае сілы. Сацыялёгі й гісторыкі навет цьвердзяць, што калі тырандэспат затрымаўся ў сваім панявольным паходзе, стаў на месцы, дык гэта ўжо пачатак ягонага канца.

Затым заданьнем усіх паняволеных народаў, у тым ліку й іхных эміграцыяў і перш-наперш беларускае эміграцыі, зь яшчэ большай станоўкасьцяй і наважанасьцяй наступаць, каб прысьпешыць ужыцьцёўленьне нашых сьвятых ідэялаў, выпісаных у векапомным Акце 25 Сакавіка.

Жыве Беларускі Народ у змаганьні!
Жыве БНР!

**Мікола Абрамчык**
**Прэзыдэнт Рады БНР**

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ



**Беларускі Жаноцкі Ансамбль у Кліўлендзе**

31-га сакавіка Кліўлендзкі Аддзел БАЗА арганізаваў сьвяткаваньне 50-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвяткаваньне адбылося ў гатэлі „Кліўленд". Яно прайшло зь вялікім посьпехам.

Акадэмію адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА сп. С. Карніловіч. Тады салістка Іра Каляда прапяяла амэрыканскі гімн пад акампаньямант Колі Стрэчаня. Пасьля гімну Япіскап БАПЦарквы Андрэй прачытаў адпаведную малітву.

Мгр. В. Пляскач з Дэтройту зрабіў кароткую інфармацыю пра падзеі 1918 году, ён-жа й кіраваў усёй урачыстасьцяй. Галоўным прамоўцам быў ведамы амэрыканскі прыяцель паняволеных народаў кангрэсмэн Майкл Фіен, які вельмі дакладна й з грунтоўным веданьнем нарысаваў гісторыю беларускага народу, падчыркнуўшы ягонае гэраічнае змаганьне за сваю незалежнасьць. Гэта было для нас асабліва важна, бо спасярод прысутных было каля 45 гасьцей, якія вельмі мала ведаюць пра Беларусь.

Наступным прамоўцам быў ведамы рэспубліканскі дзеяч сп. Р. Пэрк. Ён таксама вельмі добра разумее праблему паняволеных народаў. Ён між іншым заўважыў, што ня можа сьвет існаваць, калі адна ягоная частка вольная, а другая паняволеная.

Сп. С. Грынкевіч прачытаў праклямацыю губэрнатара штату Огайё, а праклямацыю мэра гораду прачытаў ягоны заступнік. На моцы гэтых праклямацыяў дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Днём Беларускай Незалежнасьці ў горадзе Кліўленд і ў штаце Огайё.

У перамешку з прамовамі адбывалася мастацкая частка. Выступала танцавальная група Беларускае Сыботняе Школы пад кіраўніцтвам сп. Ул. Дунца. Прыгожымі галасамі цешылі прысутных салістка Іра Каляда й Жаноцкі ансамбль пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага. Ансамбль зрабіў вялікае ўражаньне на чужынцаў, як і на сваіх. За прыгожае выканаьне беларускае песьні належыцца асаблівая падзяка сп. К. Кісламу, а таксама ўсім жанчынам, удзельніцам ансамблю, якія ня толькі рэгулярна прыходзілі на сьпеўкі, але й шмат патрацілі часу на вышываньне аднолькавых касьцюмаў. Для солё й ансамблю акампаньяваў сп. У. Літвінка. Шмат хто ад іншых нацыянальнасьцяў зазначыў, што Жаноцкі ансамбль не абы якое дасягненьне Беларусаў Кліўленду.

Сёлетняе сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці застанецца на доўга ў памяці тых, што на ім прысутнічалі.

**Ул. Д.**

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА У БЕЛАРУСКІМ КАНГРЭСАВЫМ КАМІТЭЦЕ

Дакладна ў той самы час, калі адбывалася ўрачыстая Акадэмія на ўгодкі 25 Сакавіка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, ладзіў сьвяткаваньне гэтых угодкаў Беларускі Кангрэсавы Камітэт у залі Грэцкай Кадэдры ў Нью Ёрку. Пра дэталі гэтага сьвяткаваньня Рэдакцыі нашай газэты нічога ня ведама.

## ПРЫГОЖЫ ПРЫКЛАД

Вучаніцы Ядзя й Карнэля Найдзюкі 28 сакавіка пад музыку з грамафоннай кружэлкі ў нацыянальных вопратках у гонар 50-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка пратанцавалі „Крыжачок" у трох клясах школы сьв. Франьцішка з Асыжу ў Лёс Анджэлес, у якой яны вучацца.

# ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ У БЕЛАРУСКАЙ АУТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАУНАЙ ЦАРКВЕ

## НОВЫЯ ЯПІСКАПЫ



**Справа налева: Архіяпіскап БАПЦ Васіль, Япіскап БАПЦ Мікалай, Першагерарх БАПЦ Архіяпіскап Сяргей, Украінскі Япіскап Данат, Сэрбскі Япіскап Дымітры й прат. Юры Папас (Грэк)**

Важныя гістарычныя падзеі адбыліся нядаўна ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. 15 лютага сёлета адбылася хіратонія Уладыкі Андрэя, а 10 сакавіка — хіратонія Уладыкі Мікалая. Абедзьве хіратоніі адбыліся ў Адэляйдзе (Аўстралія), дзе прабывае Першагерарх сьв. БАПЦарквы Высокапраасьвяшчэньнейшы Архіяпіскап Сяргей.

Уладыка Сяргей 11 лютага ў сэрбскай праваслаўнай царкве ў Адэляйдзе пастрыг у манаха й высьвяціў у сан архімандрыта мітраф. прат. а. Аляксандра, а 15 лютага, у Дзень Сьвята Спатканьня Госпада, у грэцкім праваслаўным саборы сьв. Архістратыга Міхаіла было праведзенае нарачэньне й хіратонія яго ў япіскапа Горадзенскага-Наваградзкага й Кліўлендзкага.

Хіратонія была праведзеная ў часе сьв. Літургіі, якую адправілі Высокапраасьвяшчэньнейшы Архіяпіскап Сяргей і Праасьвяшчэньнейшы Япіскап Сэрбскі Дымітры ў васысьце заступніка Архіяпіскапа Англіканскае Царквы арх. Рычарда, мітраф. прат. а. Міхаіла Шурко й прат. а. Аляксандра Кулакоўскага з БАПЦарквы, прат. а. Юрага Папаса з Грэцкае Праваслаўнае Царквы, а. Мікадыма Палічкіўскага й дыякана а. Івана Пізьнічэнкі з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Пасьля гэтага вобразу першае хіратоніі мы можам уявіць сабе й прабег другое хіратоніі: архімандрыта а. Мікалая, бо адбылася яна ў тым самы грэцкім праваслаўным саборы ў Адэляйдзе, як ужо вышэй успомнена, 9-10 сакавіка: 9-га — нарачэньне, а 10-га — самая хіратонія ў япіскапа Турава-Пінскага й Таронцкага.

Зазначым толькі, што ў гэтай хіратоніі прынялі ўдзел чатыры герархі: Высокапраасьвяшчэньнейшыя Архіяпіскапы БАПЦ Сяргей і Васіль ды Праасьвяшчэньнейшыя Япіскапы Данат з Украінскае АПЦарквы і Дымітры із Сэрбскае Праваслаўнае Царквы. Усё іншае духавенства ў часе гэтае хіратоніі было тое самае ды, апрача яго, быў яшчэ прысутны грэцкі архімандрыт а. Даніель.

Пасьля хіратоніі Уладыкі Мікалая адбылася прыгожая супольная бяседа за скромным сталом у Першагерарха БАПЦ Уладыкі Сяргея, у якой прынялі ўдзел беларускія Уладыкі Васіль і Мікалай, беларускае духавенства ў Аўстраліі, а таксама украінскі Уладыка Данат і сэрбскі Уладыка Дымітры із сваім сакратаром прат. а. Жыўко ды колькі сьвецкіх Беларусаў. Бяседа гэтая была важная тым, што тут было заманіфэставанае прыяцельства трох народаў: Беларусаў, Украінцаў і Сэрбаў.

У міжчасе 2 сакавіка Уладыка Васіль адведаў нашую беларускую калёнію ў Мэльбурне. У васысьце прат. Аляксандра ён тут адправіў урачыстую Божую Службу, на якую сабралася ўся мэльбурнская беларуская грамада. Мэльбурнскія Беларусы запрасілі былі Уладыку Васіля да сябе. Уладыка запросіны ахвотна прыняў, тым больш, што сярод іх знайшоў сваіх землякоў з бацькаўшчыны. Правёў у мэльбурнскіх Беларусаў Уладыка Васіль тры дні. Адбыліся два супольныя спатканьні й плённыя гутаркі на тэмы нашага царкоўнага й грамадзкага жыцьця.

Уладыка Васіль быў зьдзіўлены высокім узроўнем жыцьця ў Аўстраліі. Траха ўсе нашыя Беларусы маюць тут свае добра ўладжаныя дамы й свае аўтамашыны, якіх тут ня менш, чымся ў Амэрыцы. Хоць заработкі тут крыху меншыя, але аўстралійскі даляр даражэйшы за амэрыканскі. Усе-ж тавары ў Аўстраліі танейшыя, таму ўзровень жыцьця тут амаль той самы, што і ў Амэрыцы.

На паваротнай дарозе нашыя Уладыкі Васіль і Мікалай затрымаліся на адзінь дзень у Сыднэі, дзе, на просьбу мясцовых Беларусаў, адбылося вельмі прыемнае спатканьне зь імі. Усе сыднэйскія Беларусы ўжо былі даведаліся пра хіратонію нашых новых япіскапаў і вельмі цешыліся з гэтага. „Гэта нашая радасьць і наш гонар", — казалі яны нашым Уладыкам. Таму яны вельмі дзякавалі Уладыку Васілю за ягоную гутарку, у якой ён расказаў ім пра цяжкасьці й посьпехі нашай сьв. БАПЦарквы ды пра нашыя пляны на будучыню. Усе абяцалі сваё падтрыманьне ўлучна з намерам зарганізаваць свой прыход БАПЦарквы ў Сыднэі.

Усе Беларусы Адэляйды, Мэльбурну й Сыднэю перадавалі шчырыя прывітаньні сваім прыяцелям і знаёмым у Амэрыцы й Канадзе. Прывітаньні гэтыя прыемныя таму, бо яны паказваюць, што дзе-б не знаходзіліся нашыя суродзічы, яны адчуваюць сябе братамі й сёстрамі, ня трацяць свайго нацыянальнага пачуцьця.

**Аўстралійскі Беларус**

## ВЯЛІКАЯ УРАЧЫСТАСЬЦЬ У БРУКЛІНЕ



**Зьлева направа: Япіскап Мікалай, Архіяпіскап Васіль, Япіскап Андрэй і а. Васіль Кендыш**

У нядзелю 17 сакавіка адбылася вялікая ўрачыстасьць у нашым катэдральным саборы БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

У пятніцу 15 сакавіка вярнуліся зь хіратоніі ў Аўстраліі нашыя Уладыкі Васіль і Мікалай. У сувязі з гэтым шмат якія нашыя парахвіяне прасілі Уладыку Мікалая адправіць сваю першую Архірэйскую Божую Службу ў нашым саборы. Уладыка Мікалай даў сваю згоду на гэта, аб чым хутка даведаліся ўсе нашыя парахвіяне й з радасьцяй чакалі нядзелі. Пры гэтым паўстала таксама думка, каб на такую вялікую ўрачыстасьць запрасіць і Уладыку Андрэя з Кліўленду, на што Уладыкі Васіль і Мікалай ахвотна згадзіліся дзеля агульнага нашага царкоўнага дабра, згоды й адзінства.

Уладыка Андрэй запросіны прыняў і прыбыў у Нью Ёрк. У нядзелю наранiцы наш катэдральны сабор яшчэ перад пачаткам Божае Службы пачаў запаўняцца вернікамі. Прыбылі таксама парахвіяне зь Нью Брансьвіку із сваім хорам пад кіраўніцтвам сп. Ф. Родзькі, а таксама парахвіяне з аколіцаў Нью Ёрку.

Усе тры нашыя Уладыкі спачатку стаялі пасярэдзіне сабору, і Уладыка Васіль багаславіў а. Васіля Кендыша пачаць Божую Службу. Калі-ж а. Васіль яе пачаў, а ўзмоцнены хор пад кіраўніцтвам сп. А. Каптуровіча пачаў вельмі прыгожа сьпяваць, радасьць усіх вернікаў была вельмі вялікая. Іхныя натхнёныя душы горача дзякавалі Госпаду Богу за такую вялікую Ягоную ласку да нас: за нашых новых япіскапаў, за ўзмацненьне нашае сьв. БАПЦарквы, за нашыя посьпехі цяпер і за нашую надзею на такія-ж посьпехі ў будучыні.

І зразумела, што й пропаведзь Уладыкі Васіля была натхнёная, бо-ж радасьць усіх прысутных адлюстроўвалася ў ягоным сэрцы, як прамені із самога Неба. Таму ўсе былі згодныя зь ім, калі ён казаў: — Гэтая радасьць нашая, паводля слова сьв. вярхоўнага Апостала Паўла, ёсьць нашым асьвячэньнем з вышыняў, ад самога Бога! Служба Божая закончылася Вялікапоснаю Паніхідаю, Шматлецьцямі й нашым царкоўным гімнам „Магутны Божа".

Гэтая самая радасьць прадаўжалася й на супольным абедзе, на якім было звыш 150 чалавек і за падрыхтаваньне якога вялікая падзяка нашым слаўным гаспадыням. Абедам кіраваў а. Васіль Кендыш. Многа тут было прыгожых прамоваў як нашых вернікаў, гэтак і Уладыкаў. І ня дзіва, бо-ж усе радаваліся. Радаваліся й дзякавалі Госпаду Міласэрнаму, нашым Архіпастырам, Духавенству ды ахвярным будаўнікам нашае сьв. БАПЦарквы гучнымі „Многія лета" й „Сто год".

Уладыка Васіль спачатку паблагаславіў абед малітваю „Цару Нябесны", а закончыў яго малітваю „Багародзіца Дзева радуйся..." ды багаславенствам усіх прысутных. Але бальшыня іх яшчэ ня менш дзьвюх гадзінаў дзялілася сваймі ўражаньнямі з нагоды апошніх нашых слаўных падзеяў у нашай сьв. БАПЦаркве, а тры Уладыкі адбылі супольную нараду ў справе згоднае й гарманійнае працы ў ёй.

**С. Клім**

## ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ У МЭЛЬБУРНЕ

Сёлетнія сакавіковыя ўгодкі ўжо шмат раней зактывізавалі шмат якіх Беларусаў у Мэльбурне (Аўстралія). Яшчэ ў часе леташняга сьвяткаваньня ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня прадстаўнік Беларускага Камітэту ў Вікторыі выступіў быў із заклікам да беларускага грамадзтва з просьбаю актыўнае дапамогі пры падрыхтаваньні сьвяткаваньня юбілейных 50-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. На пашыраных паседжаньнях Камітэту вяліся даўжэйшыя гутаркі аб плянах сьвяткаваньня. Аптымістыя прапанавалі пляны шырэйшыя, пэсымістыя — больш сьціплыя. Хоць запраўднасьць паказала кампрамісовасьць, але й пацьвердзіла волю й ахвоту значнай часткі Беларусаў Мэльбурну да нацыянальнай працы.

З нагоды нацыянальнага юбілею малебен за беларускі народ адслужыў у нядзелю 24 сакавіка ў БАПЦаркве а. А. Кулакоўскі.

Галоўнае аднак сьвяткаваньне юбілейных угодкаў адбылося тыдзень пазьней — у нядзелю 31 сакавіка ў вялікай залі на Футскрэй. Перад гэтым Беларускі Камітэт у Вікторыі, як арганізатар сьвяткаваньня, разаслаў быў мясцовым Беларусам адмысловы заклік, прыпамінаючы ў ім гістарычную ролю Акту 25 Сакавіка.

На праграму юбілейнай урачыстасьці зложыліся: 1. Малебен удзячнасьці, адслужаны ў залі а. Б. Камінскім; 2. Урачыстая Акадэмія з афіцыйнай і мастацкай часткамі.

Акадэмія пачалася аўстралійскім гімнам, прапяяным мяшаным хорам пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча. Адчыніў Акадэмію й вёў яе чародны старшыня Камітэту сп. М. С. Падчыркваючы векапомнасьць Акту 25 Сакавіка, ён сьцьвердзіў волю беларускага народу да поўнага зьдзейсьненьня ідэялаў Сакавіковага Акту.

Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць нядаўна памерлага А. Субача. У далейшым былі прачытаныя шматлікія прывітаньні, атрыманыя ад беларускіх арганізацыяў у ЗША, Канадзе й Эўропе.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. У. Сідлярэвіч, у часе якога хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць па ўсіх памерлых змагарох за Беларусь.

Пасьля кароткага перапынку быў адслужаны ўрачысты малебен, у часе якога пяяў мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча.

На мастацкую частку ўрачыстасьці зложыліся:

1. Літаратурна-музычны мантаж з магнітафоннай стужкі, найгранай у ЗША („Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" А. Салаўя й агляд творчасьці Максіма Гарэцкага).

2. „Сцэнка з 3-ма галасамі" А. Салаўя, прачытаная сп-няй З. Кадняк, П. Мікулічам і М. С.

3. Тры народныя песьні: „Люблю наш край", „Ой, пайду я, выйду", „Агурочкі" ў выкананьні хору.

4. Дэклямацыя вершаў: „Родная мова" П. Панчанкі й „Ты, Гомо косьмікус". М. Танка ў выкананьні сп-ні Вольгі Кукель; „Пчолы" Я. Купалы ў перакладзе на ангельскую мову В. Рыч у выкананьні сп-чні С. Міхалюк; „Ён граць ня сьціхне" Н. Арсеньневай у выкананьні Юркі Нікана.

5. Дзьве народныя песьні: „Ці ня быстрая рэчка" й „Лявоніха" ў выкананьні хору.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам, прапяяным хорам і прысутнымі.

На заканчэньне варта дадаць, што наш прэсавы прадстаўнік гэтым разам прыгатаваў багацейшую выстаўку беларускага друку, як савецкага, гэтак і эміграцыйнага. Не зважаючы на восень і засуху, на залі было шмат прыгожых кветак і зелені.

**М. Н.**

## САКАВІКОВЫЯ УГОДКІ Ў СЫДНЭІ

У сыботу 30 сакавіка сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі (Аўстралія) ўрачыста адзначылі 50-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Гасьцінная заля гатэлю была ўпрыгожаная кветкамі й нацыянальнымі сьцягамі. З далёку й з блізку прыбывалі нашыя людзі на ўрачысты вечар.

Старшыня Аб'еднаньня інж. М. Каранеўскі адчыніў Акадэмію і ў цёплых словах прывітаў прысутных. Ён-жа прачытаў прывітальныя тэлеграмы ад Беларускага Камітэту ў Мэльбурне й ад прыватных асобаў, што не маглі прыбыць асабіста на ўрачыстасьць.

Сп. А. Качан прачытаў цікавы рэфэрат аб Акце 25 Сакавіка й ягоным значаньні для нас і нашых будучых пакаленьняў. Сяньняшняе палажэньне беларускага народу дакладчык прыраўнаваў да сытуацыі ў Кітаі, калі ашалелы тыран Чыін 2.200 год таму, каб забіць у народзе памяць аб мінулым, загадаў быў спаліць усе кнігі — папірусныя й пісаныя на мушлях, а тых, што супраціўляліся, у ліку 400 чалавек казаў жыўцом закапаць у зямлю разам зь іхнымі бібліятэкамі. Гэтак сяньня й з нашымі вучонымі й нашай культурай у паняволенай бацькаўшчыне. Пасьля рэфэрату быў прапяяны беларускі нацыянальны гімн.

Пасьля гэтага адзін із сяброў даў агляд сытуацыі ў сьвеце й на бацькаўшчыне, зазначыўшы, што камунізм паўстрыманы на Філіпінах, Маляях і ў Інданэзіі, а ў Паўдзённым Ветнаме йдзе цяжкае змаганьне зь ім. Унутры-ж самога камуністычнага блёку зазначаецца выламліваньне шмат якіх краёў з пад гэгэмоніі Масквы, як у Кітаю, Румыніі, Чэхаславаччыне й Полышчы. На бацькаўшчыне, як паінфармаваў наш сябра, голаду няма, людзі павылазілі із зямлянак, але за 12 гадзінаў цяжкай калгаснай працы сяляне атрымліваюць, як у аптэцы, 350 грамаў зерня й 5 кіляграмаў бульбы. А ў шмат якіх калгасах яшчэ горш.

Пасьля гэтай інфармацыі сп. А. Смаль прачытаў колькі вершаў Янкі Купалы, а д-р Я. Малецкі прадэклямаваў верш Ф. Багушэвіча „У судзе".

Пры добрым пачастунку, кілішку віна й зуброўкі прысутныя да позняга вечару правялі час. Наапошку старшыня зложыў падзяку тым, што прынялі ўдзел у вечары, а перадусім сп. А. Качану за ягоны цікавы рэфэрат і сп-ні Хаванскай за надзвычайна смачную салодкаводную рыбу „акунькі", падсмажаную паводля беларускай кухні.

**А. Лаўрыновіч**

## ГАЛАСЫ З АУСТРАЛІІ

### З МЭЛЬБУРНУ

З нагоды хіратоніі нашых Уладыкаў у Адэляйдзе дастойныя госьці з Амэрыкі наведалі нашых суродзічаў у Мэльбурне.

Дня 21 лютага Уладыка Андрэй адслужыў у БАПЦаркве ў Мэльбурне сваю першую Архірэйскую Божую Службу. А 3 сакавіка Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль у тэй-жа царкве адправіў Архірэйскую Божую Службу.

Уладыку Васіля Беларусы Мэльбурну вялікай грамадой прывіталі 1-га сакавіка з кветкамі на лётнішчы й гасьцілі ў сябе праз чатыры дні. А 5 сакавіка разьвіталіся зь ім і тадышнім архімандрытам, а пазьнейшым япіскапам Мікалаем, які на адзін дзень быў прыляцеў у Мэльбурн.

**М. Н.**

### З СЫДНЭЮ

Пасьля хіратоніі ў япіскапы архімандрыта Мікалая, якая адбылася ў Адэляйдзе, Архіяпіскап Васіль і Япіскап Мікалай праездам назад у Амэрыку неспадзявана завіталі на кароткі час да нас у Сыднэй. 13 сакавіка Уладыка Васіль быў спатканы на лётнішчы ў Сыднэі групай мясцовых Беларусаў.

Уладыка Мікалай прыбыў днём раней. Вечарам 13 сакавіка было наладжанае ўрачыстае прыняцьце абодвых нашых царкоўных дастойнікаў. Уладыка Васіль знаёміў нас із царкоўнымі справамі й заклікаў зарганізаваць свой прыход у Сыднэі.

Назаўтрае Уладыка Васіль у таварыстве старшыні нашага Беларускага Аб'еднаньня зьведаў Сыднэй і аколіцы. Потым таго-ж дня абодвы Уладыкі былі праводжаныя групай Беларусаў на лётнішча.

Нашае спатканьне з Уладыкамі было вельмі сьціплае, бо нашую невялікую й расьцярушаную групу Беларусаў іхнае прыбыцьцё захапіла няпрыгатаванымі, і, нажаль, ня было магчымасьці паведаміць на час усіх Беларусаў у Сыднэі й аколіцах аб іхным прыбыцьці.

**М. П.**

### ВЕСТКІ ЗЬ ЛЁС АНДЖЭЛЕС

5 лістапада мінулага году адбыўся ў Лёс Анджэлес украінскі вечар, прысьвечаны 50-ым угодкам адраджэньня ўкраінскае дзяржавы. Адпаведны рэфэрат прачытаў на вечары ведамы ўкраінскі дзеяч і рэдактар д-р М. Стахіў. Беларусаў на вечары рэпрэзэнтаваў сп. Часлаў Найдзюк.

***

27 студзеня Украінцы ў Лёс Анджэлес урачыста адзначалі свой Дзень Незалежнасьці. Падчас падняцьця ўкраінскага сьцягу ў Сіты Гол ад Беларусаў быў прысутны сп. Часлаў Найдзюк.

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ У ЧЫКАГА

Сёлета беларускае грамадзтва ў Чыкага вельмі ўрачыста адзначыла залаты юбілей абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Яшчэ ў сярэдзіне сьнежня летась быў створаны адмысловы Сьвяткавальны Камітэт, у які ўвайшлі: Арганізацыя Беларускае Моладзі ў штаце Іліной, Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкага й Згуртаваньне Беларусаў ў штаце Іліной. Пэрсанальны склад Сьвяткавальнага Камітэту быў наступны: сп. Мікола Жызьнеўскі — старшыня й сп-ня Вера Рамук — сакратар ад Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, сп. Алесь Салавей —заступнік старшыні й сп-ня Таня Новік — скарбнік — ад Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, сп. Антон Беленіс і сп. Міхась Махнач — сябры Сьвяткавальнага Камітэту — ад Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной ды сп. сп. Глеб Калтаноўскі, Лявон Міранцоў і Васіль Пунтус — ад Беларускай Нацыянальнай Рады.

Але ўвесь цяжар зарганізаваньня юбілею быў узложаны на сп. Мікоду Жызьнеўскага й сп-ню Веру Рамук, якія не шкадавалі часу й сілы, укладаючы душу й сэрца ў пасьпяховае правядзеньне сьвяткаваньня.

Хоць фармальна не ўваходзіў у склад Сьвяткавальнага Камітэту, шмат папрацаваў пры арганізаваньні сьвяткаваньня д-р В. Рамук

З увагі на павагу сьвята быў створаны й Ганаровы Камітэт Сьвяткаваньня, сябрамі якога былі: мэр гораду Чыкага Рычард Дэйлі, сэнатар ЗША й лідэр Рэспубліканскае фракцыі ў Сэнаце Эвэрэт Дырксэн, кангрэсмэн з Рэспубліканскае партыі Эдвард Дэрвінскі, кангрэсмэн з Дэмакратычнай партыі Раман Пуцінскі, дэпутат стэйтавай легіслятуры Джэйкап Джан Вольф, альдэрман і адначасна другая асоба пасьля мэра ў адміністрацыі гораду Томас Кейн, беларускія сьвятары а. Алег Мірановіч ад Беларускай Праваслаўнай Царквы сьв. Юрага й а. Уладзімер Тарасэвіч ад Беларускай Каталіцкай Царквы Хрыста Спаса, праф. кампазытар Мікола Куліковіч, д-р Рыгор Чарнэцкі, д-р Пётр Гайдзель, д-р Балеслаў Грабінскі, д-р П. Маркоўскі, д-р Вітаўт Рамук, д-р М. Самухін, д-р Аўген Вярбіцкі й д-р А. Занковіч.

Урачыстая Акадэмія адбылася ў нядзелю 31 сакавіка, папярэджаная Службамі Божымі ў вабедзьвюх — праваслаўнай і каталіцкай беларускіх сьвятынях. А гадзіне 12-ай дня прыгожая й вялікая банкетавая заля Шэратон-Блекстон гатэлю пачала напаўняцца людзьмі, сярод якіх красаваліся ў прыгожых нацыянальных касьцюмах беларускія дзяўчаты й хлопцы. Пры ўваходзе ў залю нашыя дзяўчаты прышпілялі юбілейныя значкі зь беларускімі нацыянальнымі колерамі, прыгожа й удала прыгатаваныя спадарынямі Л. Беленіс і К. Пунтус.

Апрача Беларусаў з гораду Чыкага й аколіцаў, на Акадэміі былі прадстаўнікі ад беларускіх арганізацыяў з аддаленых мясцовасьцяў: заступнік старшыні Галоўнай Управы БАЗА д-р Язэп Сажыч з Дэтройту, былы старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту д-р Мікалай Шчорс з Пляцбургу, штату Нью Ёрк, стары беларускі дзяяч а. Міхась Урбановіч із закону Айцоў Марыянаў. Усіх прысутных было каля 250 чалавек.

Пасьля кактэйлю пачаўся ўрачысты абед, папярэджаны прапяяньнем амэрыканскага гімну салістым Сьцяпанам Віцікам і малітвай, прачытанай а. Алегам Мірановічам. Месца за галоўным сталом занялі кангрэсмэны, прадстаўнікі ад Украінцаў, Палякаў, Латышоў, і Летувісаў ды іншыя ўдзельнікі афіцыйнай часткі праграмы. Роля канфэрансье выпала на долю сп-ні Веры Рамук, якая ўдала вяла праграму, што трывала каля трох гадзінаў.

Акадэмію адчыніў уводным словам старшыня Сьвяткавальнага Камітэту Мікола Жызьнеўскі. Ён падчыркнуў, што хоць Беларусь пазбаўленая дзяржаўнай незалежнасьці, аднак змаганьне за ейнае здабыцьцё вядзецца, а беларуская эміграцыя, апынуўшыся ў Амэрыцы, мае поўную свабоду й магчымасьць прадаўжаць гэтае змаганьне. Ён зьвярнуў увагу прысутных на тое, што 50-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі якраз супадаюць із 150-мі ўгодкамі ад заснаваньня штату Іліной ды 131-мі ўгодкамі ад заложаньня гораду Чыкага.

Пасьля гэтага хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць усіх тых, што злажылі жыцьцё сваё ў змаганьні за вызваленьне й незалежнасьць Беларусі.



Прамаўляе Кангрэсмэн Раман Пуцінскі. Трэйці направа ад яго Кангрэсмэн Эдвард Дэрвінскі

Рэфэрат на тэму дня прачытаў паангельску старшыня Беларускага Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду д-р Аўген Вярбіцкі. Ён абрысаваў найранейшую дзяржаўную дзейнасьць Полацкага Княства, пачынаючы ад 9-га стагодзьдзя, ды сьцьвердзіў, што носьбітамі дзяржаўнасьці Вялікага Княства Літоўскага былі Беларусы, а сяньняшняя Летува называлася ў гэным часе Жамойдзяй.

Далей прамоўца даў гістарычны нарыс значаньня й ролі Акту 25 Сакавіка. Наапошку ён зазначыў, што сярод паняволеных камунізмам народаў пачынаюць актывізавацца вызвольныя сілы, довадам чаго апошнія падзеі ў Чэхаславаччыне, Польшчы й Румыніі і навет нацыянальныя фэрмэнты ў самым Савецкім Саюзе.

Наступным прамоўцам быў кангрэсмэн Раман Пуцінскі, ведамы прыхільнік і абаронца паняволеных народаў. У ягонай прамове чуўся малады й палкі энтузіязм, вобразнасьць і гумар, прыкладам чаго быў сказаны папольску наступны ягоны сказ: „В Бялорусіне така душа, жэ хоць умжэ, то сен руша". Эсэнцыяй ягонай прамовы было выказаньне ўпэўненасьці, што Беларусь побач зь іншымі паняволенымі народамі паўстане й будзе незалежнай.




Фрагмэнт залі, запоўненай удзельнікамі сьвяткаваньня

Рэфэрат на тэму дня пабеларуску прачытаў сп. Васіль Пунтус, былы старшыня Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага. Ён даў гістарычны нарыс падзеяў, што папярэдзілі Акт 25 Сакавіка, успомніўшы палітычна - вызвольнае змаганьне Кастуся Каліноўскага. Прамоўца выказаў жаль і горыч з таго факту, што беларускі народ з багатай мінуўшчынай і высокай культурай мусіць ісьці цярністымі шляхамі, тады калі народы Азіі й Афрыкі адзін па адным здабываюць сваю незалежнасьць.

Наступную прамову сказаў кангрэсмэн Эдвард Дэрвінскі, заклікаючы Беларусаў захоўваць сваю мову, традыцыі й культуру ды быць стойкімі ў змаганьні за свае нацыянальныя ідэалы. Трэба адцеміць, што кангрэсмэн Дэрвінскі, як і кангрэсмэн Пуцінскі, кажнага году выступаюць з прамовамі ў Кангрэсе на ўгодкі Акту 25 Сакавіка.

Ад Палякаў прамаўляў сакратар Польскага Нацыянальнага Саюзу Адольф Пахуцкі. Ён падчыркнуў вялікую гістарычную ролю беларускага народу ў фэдэрацыі трох народаў, задзіночаных пасьля Люблінскай вуніі. Ён заклікаў забыцца пра сумныя факты ў гісторыі ды глядзець з надзеяй у сьветлую будучыню. Сваю прамову сп. Пахуцкі закончыў словамі: „Няхай жыве Беларуская Рэспубліка".

Ад Украінцаў прамаўляў кіраўнік украінскай радыяпраграмы „Вячэрняя Гадзіна" сп. М. Фэдак. Ён пажадаў, каб Беларусь сталася незалежнай ды заклікаў да супрацоўніцтва з Украінцамі ў супольным змаганьні за незалежнасьць.

Старшыня Згуртаваньня Латышоў у Чыкага й адначасна старшыня Камітэту Паняволеных Народаў В. Віксэнінс вітаў Беларусаў ад імя Латышоў і балтыйскіх краінаў ды ўсіх паняволеных народаў, што ўваходзяць у ўспомнены Камітэт, жадаючы, каб беларускі народ узноў стаўся вольным і незалежным.

На Акадэміі былі прысутныя дэпутат штату Іліной Джэйкап Джан Вольф і альдэрман Кейн із жонкай ды прадстаўнікі ад іншых народаў: ад Чэхаў — інж. і сп-ня Рыхтар, ад Славакаў — д-р і сп-ня Глетко, ад Эстонцаў — сп. Ёган Гольбэрг, ад Казакаў — сп. Андрэй Мазанаў, ад Сэрбаў — сп. і сп-ня Вуёвіч, ад Летувісаў — рэдактар газэты „Сандара" і скарбнік Летувіскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага М. Вайдыла, кіраўнік радыяперадачаў „Украінскія Мэлёдыі" праф. і сп-ня Самбірскія, маёр і сп-ня Харыў ад украінскіх вэтэранаў.

Студэнт інжынерыі Рыгор Новік прачытаў праклямацыі ад губэрнатара Отана Кэрнэра й ад мэра гораду Рычарда Дэйлі, на моцы якіх дзень 25 сакавіка быў абвешчаны ў горадзе Чыкага й штаце Іліной Днём Беларускай Незалежнасьці. Ён-жа прачытаў Рэзалюцыю ад імя ўдзельнікаў сьвяткаваньня (друкуецца побач) і прывітальную тэлеграму Прэзыдэнту ЗША Ліндану Б. Джансану, якія былі прынятыя аклямацыямі.

Прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў прачытала сп-ня Вера Рамук.

Між прамовамі былі выступленьні салёвых і дуэтных партыяў у выкананьні спадарыняў Надзеі Градэ, Ганны Брушкэвіч і Стафана Віціка пры акампаньяманьце праф. М. Куліковіча. З прыемнасьцяй трэба адзначыць, што хаця сп. Віцік Паляк, аднак патрапіў захапіць публіку чыстым беларускім вымаўленьнем і глыбокім лірызмам выкананьня беларускіх песьняў. Былі прапяяныя наступныя песьні: арыя зь беларускай опэры „Кацярына" і народная песьня „Ой, у цёмным лесе" ў выкананьні солё сп-няй Надзеяй Градэ; „Лета" — у салёвым выкананьні сп-няй Ганнай Брушкевіч; „Ой, ляцелі гусі", „Аб дзяўчыне любай" — солё сп. Стафанам Віцікам; дуэты: „Не пагаснуць зоркі ў небе" й „О, Беларусь, мая шыпшына" — спадарынямі Градэ й Брушкевіч; арыі Славы й Глеба з опэры „Усяслаў Чарадзей" — сп-няй Градэ й сп. Віцікам. Бальшыня песьняў кампазыцыі праф. М. Куліковіча.

Танцавальная група беларускае моладзі памайстроўску выканала два беларускія народныя танцы — „Мікіту" й „Лявоніху" пад музыку ведамага капэльмайстра Язэпа Маля (Малашчука), а студэнтка Унівэрсытэту Іліной Рома Пануцэвіч прадэклямавала верш Якуба Коласа „О край родны" ў перакладзе ў ангельскую мову Веры Рыч.

Акадэмія закончылася малітвай, прачытанай а. Уладзімерам Тарасэвічам, і прапяяньнем усімі прысутнымі беларускага нацыянальнага гімну.

Трэба прызнаць, што Акадэмія прайшла вельмі ўдала, довадам чаго былі словы ўдзячнасьці й захапленьня як запрошаных гасьцей і прадстаўнікоў ад іншых нацыянальнасьцяў, гэтак і з боку Беларусаў.

Сьвяткаваньне залатога юбілею абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі было папярэджанае адпаведнымі радыяперадачамі 22 і 24 сакавіка. У праграме Беларускай Моладзі „Радыё Нёман", якую вядзе кажнага месяца сп. М. Жызьнеўскі, выступаў 22 сакавіка сп. В. Пунтус з кароткай гутаркай, у якой заклікаў мясцовых Беларусаў прыняць удзел у сьвяткаваньні, а Ірэнка й Янка Рамукі прадэклямавалі вершы „25-ы Сакавік" і „Сяньня наша сьвята". 24 сакавіка ў радыё сп-ні Варонка „Волга Боўтмэн" выступала сп-ня Т. Новік.

Аб нашай нацыянальнай урачыстасьці былі зьмешчаныя прыхільныя водгукі ўва ўсіх англамоўных і чужамоўных газэтах, што выходзяць у Чыкага. Адзіная з усіх іншамоўных газэтаў, летувіскі тыднёвік „Сандара" насьветліў сьвяткаваньне крытычна асабліва ў сувязі з рэфэратам д-ра А. Вярбіцкага, што быццам Беларусы крыўдзяць Летувісаў, прысабечваючы гістарычны назоў Літва.

**Д-р В. Р.**

## THE CHICAGO BIELARUSIAN - AMERICAN COMMITTEE FOR THE OBSERVANCE OF THE FIFTIETH ANNIVFRSARY OF THE DECLARATION OF INDEPENDENCE OF BIELARUS

SHERATON-BLACKSTONE HOTEL, CHICAGO, ILLINOIS, MARCH 31, 1968

## RESOLUTION

WHEREAS, the people of Bielarus (Byelorussia), one of the first victims of the Russian Communist aggression, which last year marked fifty years of the existence of their imperialistic and colonial state, have been forcibly deprived of their national sovereignty, their religious, political, cultural, and economic liberty, and are still subjected to inhuman policy of oppression, terror, mass deportation, Russification, economic slavery and colonial exploitation; and

WHEREAS, the Bielorussian people are strongly opposed to foreign domination and are determined to restore their freedom and sovereignty which they had rightly enjoyed for many centuries in the past; and

WHEREAS, with the attention of the world focused on the new African and Asian nations which were liberated from colonialism with the aid of the United Nations and have joined the community of free and independent states, the plight of the Bielarusian and other non-Russian nations enslaved in the U.S.S.R. have been neglected; and

WHEREAS, the present government of the Bielorusian S.S.R. and its United Nations delegation, who are not democratically constituted representatives of the Bielorusian nation but only the executors of the will of the Russian colonial administration, will not and cannot, therefore, protect and defend the Bielorusian people; therefore be it

RESOLVED, that this Commemorative Assembly of the fiftieth anniversary of the Declaration of Independence of Bielarus appeal to the President, the Secretary of State, and members of the Congress of the United States of America with the request to do everything possible that the liberation of Bielarus and other countries subjugated by Communist Russia be included in the program of the American foreign policy; and be it further

RESOLVED, that the Government of the United States of America take appropriate steps through the United Nations ond other channels to stop the Soviet Russia's policy of colonialism in Eastern Europe and force the Russians to pull out their armed forces from non-Russian lands and to institute free elections in Bielarus under the supervision of the United Nations, as it was already proposed in the resolution in the Senate of the United States by the Senator from Illinois, Eeverett M. Dirksen, on January 22, 1965; and be it further

RESOLVED, that we, Americans of Bielarusian origin and descent, reafirm our adherence to the American democratic principles of government and pledge our support to our President and our Congress in their firm stand against the Communist aggression in Vietnam and in their efforts to achieve a lasting peace in the world, with freedom and justice; and be it further

RESOLVED, that we, Americans of Bielarusian birth and ancestry, direct this resolution to both the Democratic and the Republican National Committees, requesting that freedom of Bielarus be also included in their political platforms this election year.

For the Assembly,

**Nick Zyznieuski, Chairman**

# Угодкі 25 Сакавіка у Парыжы

Парыская беларуская калёнія адсьвяткавала 50-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 31 сакавіка.

Сьвяткаваньне пачалося ўрачыстай Божай Службай у капліцы сьв. Людвіка. Архімандрыт Леў Гарошка, які адмыслова прыбыў зь Лёндану ў васысьце студэнцкага хору пад кіраўніцтвам а. Д'юпіра, адправіў сьв. Літургію ў бізантыйскім абрадзе. Капліца была выпаўненая Беларусамі й іхнымі прыяцелямі-чужынцамі.

Пасьля Божае Службы адбыўся супольны абед для хору і ўдзельнікаў сьвяткаваньня, падрыхтаваны сп-няй Шыманец і шчодра запіты віном, прывезеным спадарствам Наўмовічамі.

Пасьля абеду пачалася ўрачыстая Акадэмія. Беларускую ўрачыстасьць наведалі прадстаўнікі нацыянальных групаў. Асаблівая належыцца падзяка нашым прыяцелям Грузінам, якія выдэлегавалі трох прадстаўнікоў ад розных арганізацыяў. Інж. Зарубішвілі рэпрэзэнтаваў калёнію Грузінаў, палкоўнік Татысьвідзэ — арганізацыю грузінскіх камбатантаў і д-р Бэрышвілі — грузінскі сацыялістычны рух. Ад Украінцаў сп. Кавальскі рэпрэзэнтаваў украінскі рух былых камбатантаў, ад Харватаў быў прысутны д-р Дабо Пэраніч, ад Казакаў — капітан Кастэнка.

Пералічаныя асобы віталі Беларусаў зь юбілейнымі ўгодкамі іхнае Незалежнасьці, выражаючы ў гарачых словах надзею, што бальшавіцкі маналіт раней ці пазьней заломіцца пад ударамі вызвольных рухаў паняволеных народаў. Трэшчыны гэтага заламаньня ўжо зазначыліся ў Чэхаславаччыне, Румыніі, Польшчы...

Галоўнай часткай сьвяткаваньня быў адпаведны даклад старшыні Міхася Наўмовіча, які прыпомніў падзеі 1918 году.

На заканчэньне госьці й гаспадары частаваліся чаркай зуброўкі ды абменьваліся думкамі й навінамі зь іхных краінаў.

**У. Ш.**

### ПРЭЗЫДЭНТ РАДЫ БНР У ЧЫКАГА

У пачатку сакавіка беларускую калёнію ў Чыкага адведаў Прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікола Абрамчык. Дастойны госьць прабыў у Чыкага цэлы тыдзень часу, адбываючы гутаркі й нарады зь мясцовымі актыўнымі Беларусамі.

2 сакавіка ў Беларускім Цэнтры пры Фулертон вуліцы адбыўся даклад сп. Прэзыдэнта пра 50-гадовы шлях вызвольнага змаганьня беларускага народу, пра нашыя нацыянальныя дасягненьні й пра пэрспэктывы на будучыню.

Пасьля дакладу адбылася ажыўленая дыскусія вакол закранутых пытаньняў, у якой прынялі ўдзел шмат якія прысутныя.

У нядзелю 3 сакавіка адбылася прэсканфэрэнцыя сп. Прэзыдэнта з прадстаўнікамі амэрыканскай прэсы, а 4 сакавіка бурмістр гораду Чыкага Рычард Дэйлі прыняў беларускую дэлегацыю із сп. Прэзыдэнтам Рады БНР на чале.

**В. П.**

# ВЕСТКІ з КАНАДЫ

BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрас:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

## 50-ЫЯ ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ Ў ТАРОНТА

Дзіўнай сілай ускалыхнуў юбілейны 1968-мы год усёй нацыянальнай беларускай эміграцыяй. Яна загудзела, як пчолы ў вульлі, заварушылася, як закрануты мурашнік, загрымела, як наэлектрызаванае паветра перад бурай. Ня дзіва! Маятнік часу выбівае поўстагодзьдзе Акту абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі!

На пачатку году прыяжджае ў Паўночную Амэрыку Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык. Ягоныя наведваньні беларускіх асяродкаў Канады й ЗША, даклады, дыскусіі й гутаркі дадаюць алертнасьці й пруткасьці ўсяму, што беларускае й жывое.

У Сэктарах Рады вядуцца дыскусіі й падрыхтоўка да чарговай Сэсіі Рады БНР. Як жывы помнік залатому юбілею БНР, пускае першыя парасткі Ліга БНР, арганізацыя для ўсіх тых, хто стаіць на груньце Акту 25-га Сакавіка.

Першы раз у гісторыі Нью Ёрку, у „Паблік Ляйбрэры" на 5-ай эвэню, непадалёк ад будынку Задзіночаных Нацыяў — цэнтру падзеяў — адбываецца на працягу чвэрцьгодзьдзя выстаўка: **„450 Год Беларускага Друку"**. Плякаты з патрэтам др. Францішка Скарыны весьцяць колькімільённаму Нью Ёрку аб багацьці культурнай спадчыны беларускага народу.

А кажны большы й меншы беларускі асяродак па ўсім сьвеце мае свае амбіцыі й робіць свае намаганьні адзначыць і ўшанаваць залаты юбілей БНР.

### ТАРОНТА

Згуртаваньне Беларусаў Канады галоўным чынам кіруе сваю энэргію на інфармаваньне лістамі, літаратурай і „ДЭКЛЯРАЦЫЯЙ Рады БНР" урадавых, грамадзкіх і культурных дзейнікаў Канады аб Беларусі, яе паняволеньні й вызвольным змаганьні. Гэтая інфармацыя была найболей інтэнсыўнай перад сьвяткаваньнем 25-га Сакавіка.

Найважнейшую аднак ролю ў вадзначэньні юбілею абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі гуляе тут Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, які рэпрэзэнтуе ЗБК, БНА й БСА (Беларускую Самапомач Атавы). Ягоным стараньнем былі наладжаныя 24-га сакавіка ўрачыстасьці, што адзначылі залаты юбілей БНР.

У нядзедлю, 24-га сакавіка, у БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага зраніцы адбываецца ўрачыстая Япіскапская Багаслужба. Перапоўненая вернікамі царква слухае прынагоднае патрыятычнае казаньне Уладыкі Мікалая. Адначасна адбываецца Багаслужба й у царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

### АКАДЭМІЯ

Як падрыхтоўка да Акадэміі была дэтальнай і стараннай, так і ўсё беларускае грамадзтва выказалася абавязкавасьцяй і пунктоўнасьцяй. А 3-ай гадзіне папаўдні вялікая заля Канадзка-Славацкай Лігі на вуліцы Дандас 1407, хутка напоўнілася па берагі. Наведвальнікі прыбывалі так масава, што сп-ня М. Ганько й маладзенькія артысткі ў нацыянальных касьцюмах ледзь спраўляліся з адзначаньнем кажнага юбілейнай істужкай ды ўручэньнем праграмкі Акадэміі.



**Пасол Фэдэральнага Парляманту Канады Д-р Станлей Гайдаш прывітаньні ад сябе й Прэм'ера Лестара Б. Пірсана**

Колькі хвілін перад пачаткам — 3:30 п.п. — прыйшлі паважаныя госьці: Яго Праасьвяшчэнства Уладыка Мікалай у суправаджэньні спадарства Грыцукоў, Пасол Фэдэральнага Парляманту др. Ст. Гайдаш із спадарыняй Гайдаш, Бурмістр Таронта Вільгэльм Дэнісон із сп-няй Дэнісон, Пасол Парляманту Антарыя Г. Р. Сартон, Сэньёр Льезон Офіцэр на Цэнтральную Канаду Г. П. Аллен із сп-няй Аллен, Старшыня Камітэту Вонкавых Спраў Эстонскай Цэнтральнай Рады ў Канадзе сп. Ільмар Гэйнсоо, Прадстаўнік Украінскай Нацыянальнай Фэдэрацыі сп. Настукаш, Старшыня „Эдмонд Буркэ Сосаеты" сп. Д. С. Андрус, Заступнік Старшыні Галоўнай Управы БАЗА др. Язэп Сажыч з жонкай Варай і дачкой Ленай ды сп-ня Вера Арцюх з Дэтройту.

Урачыстасьць пачалася Канадзкім Гімнам, адыграным аркестрай сп. Б. Лішчонка. Акадэмію адчыніў і вёў сябра К.К.Б.К. сп. Р. Беразоўскі. Два кароткія, але зьмястоўныя й патрыятычныя даклады — Старшыні К.К.Б.К. д-р Вінцэнта Жук-Грышкевіча пабеларуску й сп. Ул. Барановіча паангельску — далі слухачом усьведамленьне важнасьці падзеі, якую яны сабраліся тут адзначыць, ды велічы заданьня, якое ўскладае на іх гісторыя й Бацькаўшчына. — „Чаго мы хочам, за што змагаецца беларускі народ, у гэтым няма ніякага сумлеву. Мы змагаемся за Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку — гаварыў д-р В. Жук-Грышкевіч — наш шлях ясны й мы ідзём непахісна да свае мэты".

Прыемна сьцьвердзіць, што на месца старэйшых прыходзіць маладая зьмена. Даклад паангельску прачытаў з дасканалай вымовай і добрай дыкцыяй сп. Ул. Барановіч, які сёлета канчае Тарантанскі ўнівэрсытэт.

Пасьля дакладаў і прывітаньня прысутных гасьцей прамаўляў Пасол Фэдэрал. Парляманту д-р. Ст. Гайдаш. Ён прачытаў прывітальны ліст Прэм'ера Канады Л. Б. Пірсана, а пасьля ў сваіх цёплых пажаданьнях ён зазначыў, што між прадстаўнікамі ад усіх народаў на канфэрэнцыі З. Н. аб „Юман Райтс" у Тэгэране, ён спадзяецца, што будзе незалежны прадстаўнік і ад беларускага народу, што дамагаўся-б сваіх правоў чалавека.

Пасол Парляманту Антарыя, сп. Г. Р. Картон прачытаў ліст Прэм'ера Антарыя Я. П. Робартса, які тут зьмяшчаем поўнасьцю, і дадаў прывітаньні ад сябе.

Мэр Таронта В. Дэнісон у сваіх прывітаньнях зазначыў, што ў культурным і эканамічным разьвіцьці Таронта, якое перавышае рост іншых гарадоў Канады, не малую ролю адыграла й беларуская імігрacыя.

Спадар Г. П. Аллен, Сэньёр Лейзон Офісэр, вітаючы з паўстагодзьдзем незалежнасьці Беларусі, сказаў, што народ з такой гістарычнай і культурнай спадчынай, як беларускі, з такімі продкамі, як д-р Францішак Скарына, заслугоўвае на сваю дзяржаўную незалежнасьць і здабудзе яе.

Сп. Настукаш, прадстаўнік Украінскае Нацыянальнае Фэдэрацыі горача вітаў з залатым юбілеем БНР, гаварыў аб братняй сувязі між Беларусамі й Украінцамі, аб патрэбе лучэньня сілаў паняволеных народаў у змаганьні за незалежнасьць зь іх супольным ворагам — расейскім камунізмам. Аб змаганьні з камунізмам і падтрымцы беларускаму народу ў яго змаганьні за незалежнасьць гаварыў і сп. С. Андрус, Старшыня „Эдмонд Буркэ Сосаеты".

Слухаючы прамоўцаў мімавольна ў вушах гучэлі й словы „Дэклярацыі Рады БНР": „Ты ведаеш добра, Народзе, што Ты не адзін цяпер, што ёсьць у Цябе верныя саюзьнікі ... Ведай-жа, што й цэлы вольны сьвет ... прасякнуты спагадай Табе ..."

Тымчасам пачалася мастацкая частка. Вуснамі д-р Раісы Жук-Г. несьмяротны дух Янкі Купалы бярэ з нас „прысягу й зарок", каб не запрадалі сябе, каб не здрадзілі сваёй справе. Будзіць да жыцьця сьпячых і памерлых нацыянальна. Кліча Ваяка свой край заваяваць, Уладара — адбудаваць свой збураны пасад. „На ўладара жджэ Беларусь даўно" ...

„Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні ..." плачуць сэрцы з чыстым, як раса, голасам спадарынь Веры Арцюх і Вары Сажыч пад акампаньямэнтам Лены Сажыч. — „На чужое неба ўжо гляджу сягоньня, але сэрцам, думкай толькі Вас я знаю, як жыву жыць буду ў сваім родным краю ..."

О, Беларусь, даруй нам нашыя слабасьці й недахопы ...

Насталыгію перарывае колерная касьцюмамі й жывая расьцьвітаючай маладосьцю дзявочая танцавальнай група пад кіраўніцтвам сп-ні В. Пашкевіч народным танцам „Бульба". Большай сталасьцю й выпрабленасьцю адзначаецца „Крыжачок" і „Юрачка" ў выкананьні Беларускае Моладзі. Харавая дэкклямацыя верша Н. Арсеньнявай у выкананьні ўдзельнікаў танцавальнай групы дзяўчат і маладога Я. Пітушкі (кіраўнік сп-ня В. Пашкевіч) цешыць вуха добрай беларускай вымовай ды зьместам: „Мы праўда, мы сіла, мы радасьць, мы рух ... Мы ймкнёмся на ўзвышшы, нам межаў няма!" У вадказ ім хочацца сказаць: Так, моладзь, імкніся на ўзвышшы, каб заўтра змагла ты ўзяць на свае плечы абавязкі й прадаўжаць шлях сваіх бацькоў. Хай з твайго пакаленьня паўстане Купалаўскі Прарок, Пясьняр, Ваяк, Уладар! ...



**Даклад Старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады Д-ра В. Жук-Грышкевіча**

Песьні! Найбольшай аднак атракцыяй ёсьць песьні нашага прыгожага дуэту з Дэтройту — спадарынь Веры Арцюх і Вары Сажыч. Не дарма пасьля кажнага нумару, заля дамагаецца: „анкор!". Апрача ўжо ўспомненага дуэту „Я ад вас далёка" яны выканалі „О, Беларусь мая шыпшына", а сп-ня Вера Арцюх выканала солё: „Ня першы раз", „Дарогай" і „Песьня мая, Песьня", музыка Праф. Куліковіча, акампаньямэнт — Лены Сажыч.

„Лявоніха" й Беларускі Нацыянальны Гімн канчаюць Акадэмію.

Закончылася Акадэмія, разыйшліся людзі, із сцэны зьняты сьцяг, Пагоня, беларускія дзяружкі, дэкарацыя, ня зьнятыя толькі з душы перажываньні, хваляваньні, не закончаны юбілейны год БНР, не закончаная праца, ня зьняты з плеч абавязкі, не закончаны шлях — „Нас чакае Маці Беларусь!".

**Р. Жук-Грышкевіч**

**Удзельнікі Сьвяткаваньня**

### ЮБІЛЕЙНЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ ПРЫСЛАЛІ:

Lester B. Pearson, Prime Minister of Canada; Paul Martin, Secretary of State; Paul T. Hellyer, Minister of Transport; The Honorable Walter L. Gordon; Robert L. Stanfield, Leader of the Opposition; Senator Paul Yuzyk; John P. Robarts, Premier of Ontario; Allan Grossman, Minister of Reform Institutions; John P. Yaremko, Minister of Social Services; Robert F. Nixon, Leader of the Opposition in Ontario; Donald MacDonald, Leader of the NDP in Ontario; Dr. J. M. Kirshbaum, President Canada Ethnic Press Federation, President Slovac National Council.

### БЕЛАРУСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ:

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне — Галоўная Управа; Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі — Галоўная Управа і аддзел у Брадфордзе; Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне — аддзел у Лес Анджэлес; Каардынацыйны Камітэт Беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі; Беларускі Камітэт Сьвяткаваньня Юбілею ў Чыкаго; Беларускі Кангрэсавы Камітэт у Амэрыцы; Беларуская Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкаго; Беларускі Вызвольны Фронт у Вялікай Брытаніі; Беларускі Вызвольны Фронт у Вініпэгу.

### З НАЙБОЛЬШ ХАРАКТЭРНЫХ ЛІСТОЎ:

Ontario Office of the Prime Minister and President of the Council.

Dear Dr. Zuk-Hryskievic: On the occasion of the observance of the 50th anniversary of the Proclamation of Independence of the Byelorussian Democratic Republic, I am pleased to extend greetings to the people of Ontario of Byelorussian heritage.

During the early years of this century some 30.000 people came to Ontario from Byelorussia. They settled in many of our cities, Hamilton, Oshawa, Toronto, Windsor, Sudbury and Timmins, where they have made a substantial contribution to the dynamic growth and development of this province. They have helped to open the mines of Northern Ontario and participated in the great industrial expansion of Ontario. The children and grandchildren of these newcomers have achieved prominence in the medical, scientific and engineering profession and are in the forefront of our newest developments.

Byelorussians have joined with the people of many nationalities and origins in building Ontario and Canada. They take pride in being Canadian, just as they maintained their love of the land they left behind. The customs and cultural heritage, the energy and initiative, the talent and undaunted spirit, the love of freedom of these Canadians of Byelorussian heritage have enriched the life all of us enjoy in Canada.

I join with my colleagues in the Government and with my fellow Ontarians in extending good wishes to our friends and neighbours of Byelorussian heritage as they commemorate an important milestone in the life and history of their mother country.

Yours very truly **John P. Robarts**
(Prime Minister of Ontario).

**BYELORUSSIAN CANADIAN CO-ORDINATING COMMITTEE**
**(telegram)**

On this memorable occasion of the 50th anniversary of the Proclamation of independence of the Byelorussian Democratic Republic I join with all freedom loving people to send you sincere best wishes that Byelorussians be given complete freedom as we enjoy in our own great country of Canada.

**Honorable John Yaremko**
Minister of Social and Family Services.

## Падзяка

Складаем шчырую падзяку ўсім суродзічам старэйшым і маладзейшым: тым, што спрычыніліся да арганізацыі сьвяткаваньня залатога юбілею Беларускай Народнай Рэспублікі ў Таронта, тым, што прынялі чынны ўдзел у выкананьні праграмы сьвяткаваньня, як і тым шматлікім, што прыбылі зблізку, а тым больш тым, што прыбылі з далёку, каб ушанаваць сваёй прысутнасьцяй гэту вялікую беларускую падзею.

Асабліва-ж дзякуем Спадарыні Веры Арцюх, Д-ру Язэпу Сажычу, Спадарыні Вары Сажыч і іх дачцы Лене, што, не зважаючы на злую пагоду й далёкую дарогу, прыехалі на наша сьвяткаваньне з Дэтройту й упрыгожылі нашу праграму сваім цудоўным сьпевам так дарагіх нам беларускіх песьняў.

**Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады**

## З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ КЛІЎЛЕНДУ

27 лютага адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны парахвіяльны сход БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Сход адчынілі уступаючы старшыня Царкоўнае Рады сп. Васіль Радзюк. У прэзыдыюм сходу былі выбраныя інж. К. Калоша — старшыня й П. Дэймэн — сакратар.

Пасьля справаздачаў і дыскусіі была выбраная новая Царкоўная Рада ў складзе: Я. Яраховіч — старшыня, В. Валюкевіч — заступнік старшыні, Ул. Літвінка — сакратар, Вольга Міхальчык — скарбнік, А. Яраховіч, П. Мельнік і Я. Раковіч — сябры. М. Пэнда застаўся й надалей царкоўным старастам.

***

У нядзелю 10 сакавіка быў у Кліўлендзе ўрачыста адзначаны Дзень Праваслаўя. З гэтае нагоды была адпраўленая Вялікапосная Вячэрня, у якой прынялі ўдзел парахвіяне й духавенства беларускай, украінскай і сэрбскай цэркваў. Сьпявалі два хоры: украінскі, а пасьля беларускі пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага.

Як ведама, ня ўсе хоры добра сьпяваюць Вячэрню. А таму беларускі хор меў добрую нагоду паказаць сваё ўмельства. Божую Службу адправіў япіскап БАПЦарквы Андрэй у васысьце многіх сьвятароў. На тэму ўрачыстасьці а. Леонці Форастыфскі сказаў вельмі зьместоўную пропаведзь.

***

17 сакавіка адбыўся ў Кліўлендзе чародны 19-ы міжнародны Фэстываль, сарганізаваны арганізацыяй „Фолк Артс Асосыейшэн". На фэстывалі выступала аж 37 нацыянальных групаў, якія паказвалі сваё народнае мастацтва. Найбольшая заля ў Кліўлендзе „Мюзык Гол" была перапоўненая й шмат людзей не змаглі пабачыць гэтак разнастайных і прыгожых выступленьняў.

Ад Беларусаў выступала танцавальная група Беларускае Сыботняе Школы пад кіраўніцтвам сп. Ул. Дунца. Малыя танцоры (па восем-дзевяць гадоў) выканалі два беларускія народныя танцы — „Крыжачок" і „Юрачку". За прыгожае выкананьне вялікая аўдыторыя, не дачакаўшыся канца, засыпала выканальнікаў бурнымі воплескамі падчас танцаў.

Да ўдалага выступленьня шмат спрычыніліся аркестра малых музыкаў, што складалася з двух акардыёнаў, саксафону й клярнэта. Варта заўважыць, што трох з гэтае аркестры выступалі ўжо на тэлевізіі. Вялікая падзяка належыцца ня толькі малым артыстым, але й іхным бацькам, якія ахвотна прывозілі дзяцей на рэпэтыцыі, безь якіх немагчыма было-б гэтак удала выступіць на фэстывалі.

***

22 сакавіка адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны сход Кліўлендскага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Уступаючы кіраўнік Аддзелу Ул. Дунец адчыніў сход. У прэзыдыюм сходу былі выбраныя Ул. Страпко — старшыня й Зося Каваленка — сакратар. Із справаздачы выявілася, што хоць старэйшая моладзь і мала цікавілася арганізацыяй, а актыўныя сябры выехалі на студыі, усё-ж Аддзел выканаў немалую працу. У арганізацыю ўступіла шмат малодшых сяброў ад 12-ёх год веку.

Новае кіраўніцтва было выбранае ў наступным складзе: С. Грынкевіч — кіраўнік, Ул. Страпко — заступнік кіраўніка, З. Каваленка — сакратар, Г. Кананчук — скарбнік, К. Калоша, К. Каваленка і Ул. Дунец (малодшы) — сябры кіраўніцтва. У склад Рэвізійнае Камісіі ўвайшлі Ул. Дунец, В. Гарох і М. Каваленка.

***

4 красавіка танцавальны гурток Беларускае Сыботняе Школы выступаў на адкрыцьці аднаго з найбольшых цэнтральных магазынаў ў Кліўлендзе. Аркестра прайграла колькі мэлёдыяў, а тады маладыя танцоры выканалі тры народныя танцы: „Мікіту", „Крыжачок" і „Юрачку". Перад выступленьнем два разы падавалася праграма ў гарадзкой газэце, дзе ўспаміналася пра ўдзел і Беларусаў. І ўзапраўды, як прыемна глядзець, калі малыя, ужо тут народжаныя, удала рэпрэзэнтуюць беларускае мастацтва й папулярызуюць нашае імя.

**Ул. Д.**

## УГОДКІ 25 САКАВІКА У ГІШПАНСКІМ РАДЫЁ

Дзеля адзначэньня 50-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Гішпанскае Нацыянальнае Радыё ў Мадрыдзе перадало ў сваёй нацыянальнай праграме 25 сакавіка адпаведную інфармацыю, якую падаём ніжэй у перакладзе ў беларускую мову:

„Пяцьдзеяст гадоў таму здабыла сваю незалежнасьць Беларусь, больш ведамая сярод нас як „Русья Блянка". На працягу папярэдніх стагодзьдзяў краіна гэтая называлася Вялікім Княствам Літоўскім. Ейныя нацыянальныя імкненьні ператварыліся былі ў запраўднасьць пры развале царскай імпэрыі.

Але 1918 год быў таксама пачаткам і эпохі савецкай. Два гады пазьней Беларусы патрыёты былі змушаныя пайсьці на выгнаньне, і там кажнага году адзначаюць сваё нацыянальнае сьвята.

Беларусь у мінуўшчыне была моцнай загародай супраць азіяцкіх інвазіяў, якія ніколі ня здолелі наруйшыць ейнае тэрыторыі. Адзін Беларус, Доктар Францішак Скарына ўвёў друкарства ў Усходняй Эўропе. У 1517 годзе, 47 год раней, чымся ў Маскве, ён першы надрукаваў па беларуску пераклад Біблії.

Беларусь у сучаснасьці — адна зь пятнаццаці рэспублікаў, што твораць Савецкі Саюз. У 1918 годзе, калі здабыла сваю незалежнасьць, Беларусь мела 16 міліёнаў жыхароў. Сяньня мае толькі 8 міліёнаў — гэта ейная даніна за імкненьне да незалежнасьці: зьнішчаныя адныя, выгнаныя другія. На выгнаньні Беларусы сьвяткуюць сяньня ўгодкі сваее незалежнасьці з верай, што настане дзень, калі іхная справа здабудзе справядлівую й заслужаную перамогу".

## ВОСЬМАЯ СУСТРЭЧА

### БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

12-ы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, што адбыўся ў травені 1967 году, на просьбу Управы Аддзелу БАЗА ў Дэтройце, пастанавіў наладзіць традыцыйную 8-ую Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі (ЗША й Канады) ў горадзе Дэтройце, штату Мічыган, у пачатку верасьня 1968 году (на Лэйбар-Дэй). Тэмай Сустрэчы — 50-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Ужо вядуцца адпаведныя прыгатаваньні да гэтае Сустрэчы.

## НА УГОДКАХ ТАРАСА ШАЎЧЭНКІ

Украінскае грамадзтва ў краёх Вольнага Сьвету кожнага году урачыста адзначае ўгодкі ад нараджэньня вялікага ўкраінскага нацыянальнага паэты Тараса Шаўчэнкі, які нарадзіўся 9 сакавіка 1814 году. Сёлета споўнілся 154 гады ад нараджэньня Тараса Шаўчэнкі.

Украінскі Літаратурна-Мастацкі Інстытут у Нью Ёрку сёлета наладзіў 29 сакавіка сьвяткаваньне Шаўчэнкаўскага юбілею вельмі арыгінальна і ўдала. Заміж выступленьняў на сьвяткаваньні Украінцаў, Інстытут запрасіў прадстаўнікоў ад Беларусаў, Летувісаў і Татара-Башкіраў, якія выступалі на сьвяткаваньні з дакладамі пра Шаўчэнку й ягоную творчасьць у іхных літаратурах.

Першым выступаў прадстаўнік ад Беларусаў д-р Станіслаў Станкевіч з дакладам у беларускай мове на тэму „Тарас Шаўчэнка ў беларускай літаратуры". У ходзе дакладу іншы беларускі прадстаўнік сп. Барыс Данілюк спачатку прадэклямаваў верш Янкі Купалы з 1909 году „Памяці Тараса Шаўчэнкі", тады лірычны ўступ да Шаўчэнкавай паэмы „Каўказ" у перакладзе ў беларускую мову Янкі Купалы й закончыў прадэклямаваньнем славутай „Запаведзі" Шаўчэнкі таксама ў перакладзе ў беларускую мову Янкі Купалы. Выступленьні абодвых Беларусаў былі прынятыя на высокім узроўні й былі перарываныя гучнымі воплескамі.

Ад Летувісаў выступіў з дакладам у ангельскай мове пра Шаўчэнку ў летувіскай літаратуры праф. Віталь Жукаўскас, а ягоная жонка прачытала колькі Шаўчэнкавых вершаў у перакладзе ў летувіскую мову.

Ад Татара-Башкіраў прачытаў рэфэрат у ангельскай мове пра Шаўчэнку ў татарскай літаратуры сп. Гарып Султан. Былі таксама прадэклямаваныя некаторыя Шаўчэнкавы вершы ў перакладзе ў татарскую мову. Атракцыяй вечару было выступленьне маладой татарскай сьпявачкі, якая пад собскі акампанямант на гітары прыгожа выканала колькі татарскіх песьняў.

Вечар вёў і прадстаўляў прысутным паасобных дакладчыкаў старшыня Украінскага Літаратурна-Мастацкага Інстытуту др. Барыс Ржэпэцкі.

## БЕЛАРУСКІ ЎПЛЫЎ НА ФАРМАВАНЬНЕ ПОЛЬСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ МОВЫ

Прафэсар Зьдзіслаў Штыбэр, галава Славянскага цэнтру Польскае Акадэміі Навукаў, які цяпер чытае лекцыі на Славянскім аддзеле Калюмбійскага Унівэрсытэту ў Нью-Ёрку як візытуючы прафэсар, прачытаў у Польскім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Амэрыцы 19 красавіка сёлета лекцыю на тэму „Пахаджаньне й разьвіцьцё польскае літаратурнае мовы".

Для Беларусаў лекцыя была асабліва цікавая тым, што праф. Штыбэр, сьледам за некаторымі польскімі моваведамі, сьцьвердзіў уплыў беларускае мовы на фармаваньне польскае літаратурнае мовы, пачынаючы ад караляваньня ў Польшчы Ягайлы. На пытаньне з аўдыторыі, ці мела ўплыў на фармаваньне польскае літаратурнае мовы мова літоўская, прафэсар Штыбэр адказаў, што абсалютна не: Ягайла, калі мо і ўмеў разгаварыцца зь некаторымі сваймі падданымі палітоўску, дык сам гаварыў толькі пабеларуску.

Цікава таксама, што паводля праф. Штыбэра, украінская мова зрабіла ўплыў на фармаваньне польскае літаратурнае мовы нейкім бліжэй ня выясьненым дасюль шляхом найбольш на напісаньне й вымаўленьне некаторых геаграфічных назоваў на ўсход ад Польшчы, расейскіх і найбольш беларускіх. Гэтак, паводля польскага вымаўленьня мусіла-б быць Твер, Нева, Мерэч, Маладзечна, а ня Твер, Нэва, Мэрэч, Молодэчно й пад., як гэта замацавалася ў літаратурным вымаўленьні й напісаньні згодна з украінскаю вымоваю. Сюды-ж уваходзіць і напісаньне ды вымаўленьне назову цяперашняе сталіцы Беларусі Мінск, а ня Менск. У ўкраінскай вымове, як ведама, стары гук „яць", які быў у слове „Менск", перайшоў у „і", адкуль і вымова „Мінск" (як і скажам, „хліб" з „хлеб"). Цікава, што й польскі горад Міньск Мазавецкі таксама зваўся раней „Менско", і толькі пад тым-жа ўкраінскім уплывам стаўся „Міньскам". Засвоеныя польскаю літаратурнаю моваю ўкраінізаваныя назовы былі мэханічна пераняты й Расейцамі пасьля пераходу да іхнай імпэрыі земляў з гэтымі назовамі ды накідаюцца Беларусам гвалтам і цяпер.

## СЯМЕЙНАЯ ХРОНІКА

### МАЛАДЫ АРХІТЭКТАР С. КАРАНЕЎСКІ

Сьвеціку Каранеўскаму з Сыднэю 21 год. На ўнівэрсытэце ў Сыднэі ён закончыў з найвышэйшымі адзнакамі архітэктурны факультэт з тытулам інжынера-архітэктара. Цяпер малады інжынер выбіраецца на пару гадоў у ЗША, дзе дапоўніць свае прафэсійныя веды перад тым, як пачаць самастойную працу.

Беларускае грамадзтва ў Аўстраліі мае з гэтага факту тым большую прыемнасьць, што бацька Сьвеціка, інж. М. Каранеўскі, зьяўляецца старшынём Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдзённай Валіі.

Шчасьці Божа маладому інжынеру й сям'і Каранеўскіх!

**Я. М.**

***

У спадарства Веры й Сэма Вуічаў, актыўных удзельнікаў беларускіх імпрэзаў, нарадзіўся ў студзені сын Сьцяпан. Сябры й знаёмыя жадаюць маленькаму Сьцяпану расьці здаровым і шчасьлівым на славу Богу ды пацеху бацьком і народу.

**Н.**

***

У нядзелю 7 красавіка ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку быў ахрышчаны й атрымаў імя Андрэй сынок сп-ва Алеся й Ніны Сільвановічаў. Мясцовае грамадзтва жадае маламу Андрэйку расьці здаровым і шчасьлівым, а таксама з павялічэньнем сямейкі віншуе ягоных бацькоў. Гэтае віншаваньне датычыць таксама й ягоных дзядоў сп-ва Міхася й Вольгі Сільвановічаў.

## ЦАРКОЎНЫ СХОД У НЬЮ БРАНСЬВІКУ

У нядзелю 10 сакавіка ў памешканьні Царкоўна-Грамадзкага Цэнтру ў Гайлэнд Парк адбыўся гадавы перавыбарны Сход Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці.

Сход адчыніў старшыня ўступаючай Царкоўнай Рады сп. Кажура й на ягоны заклік усе прысутныя праспявалі малітву „Ойча наш". На старшыню Сходу быў выбраны сп. Ф. Родзька, які паклікаў на сакратара сп. В. Стому.

Із справаздачаў старшыні й сяброў Царкоўнай Рады было відаць, што была праробленая немалая работа на працягу справаздачнага году. Доказам гэтага можа быць і факт, што за справаздачны пэрыяд касавы балянс выказаўся ў суме 11.145,55 даляраў. Пасьля заслуханьня справаздачаў сяброў Рады й старшыні Кантрольнае Камісіі, на прапанову апошняга, Сход пастанавіў даць уступаючай Царкоўнай Радзе абсалюторыюм з падзякаю.

У новую Царкоўную Раду былі выбраныя: В. Дубяга — старшыня, М. Сільвановіч — заступнік старшыні, інж. В. Р. — сакратар, А. Лысюк — скарбнік, П. Кажура, У. Харавец і У. Сьліўка — сябры.

У Кантрольную Камісію ўвайшлі: Н. Стома, П. Беляец і З. Дубяга. Адначасна былі давыбраныя два сябры ў склад існуючага Культурна-Асьветнага Камітэту, як прадстаўнікі Бацькаўскага Камітэту: П. Кажура й А. Дубяга.

На заканчэньне Сход выказаў падзяку наступным асобам: П. Кажуру за самаахвярную працу пры куплі царквы й магільніку, М. Сільвановічу й У. Хараўцу за працу пры правядзеньні рамонту Царкоўна-Грамадзкага Цэнтру, М. Войтэнку — за шматгадовае давожаньне да царквы а. Сьцяпана ды ўсім жанчынам, што няўтомна працуюць для дабра царквы й пры наладжаньні ўсякіх імпрэзаў царкоўнага характару.

Сход закончыўся адсьпяваньнем усімі прысутнымі малітвы.

**Парахвіянін**

## ТАМ, ДЗЕ ДЭМАКРАЦЫЯ

**Частка трэйцяя й апошняя: Канада заўтра.** Калі мы згодзімся на тыя дзьве ўмовы — культурнай і моўнай роўнасьці, ды запэўненьне (Квібэку) спэцыяльнага статусу ў фэдэральнай сыстэме — дык пагадненьне з Квібэкам ёсьць магчымым і будзе навет атракцыйным для бальшыні канадыйскіх Французаў. Калі-ж англамоўная Канада адкіне кажную з гэтых умоваў, дык тады будзе нязвычайна цяжкая сытуацыя. Я асабіста (Клёд Раян) ёсьць апосталам фэдэралізму й кажу, што калі на гэтыя ўмовы будзе зьвернута ўвага ў сваім часе — мы зможам знайсьці выхад, які будзе задавальняючым для абодвух бакоў.

Як дагэтуль, рэакцыя англамоўнай Канады была задавальняючай што да роўнасьці моваў і культураў. У гэтым кірунку зроблены вялікі поступ. Але англамоўныя Канадыйцы ў іншых правінцыях выявілі выразную няпрыхільнасьць што да дыскусіі ў справе спэцыяльнага статусу для Квібэку. Вялікая бальшыня англамоўных Канадыйцаў на далей лічуць Квібэк за такую самую правінцыю, як і іншыя правінцыі, і ўважаюць, што яму не належацца якіясь спэцыяльныя прывілеі. Калі квібэканцы незадаволены — „Хай сабе адыходзяць на сваю ўласную адказнасьць" — кажуць яны.

**Рэакцыя новых Канадыйцаў.** Я назіраў за сем'ямі імігрантаў у Монтрэалі. Я назіраў за бацькамі, якія першымі прыехалі ў Монтрэаль, а тады за іхнымі дзяцьмі й урэшце за ўнукамі, як дзеці пажаніліся. Я пабачыў хуткую эвалюцыю ў успрыняцьці адных зь дзьвюх вядучых культураў Канады.

Я лічу, што ўспрыняцьце аднэй зь вядучых культураў і моваў ёсьць непазьбежным для імігрантаў, але я думаю таксама, **што абавязкам усіх Канадыйцаў ёсьць дапамагаць ім усімі магчымымі спосабамі, каб яны захавалі сваю ўласную культурную спадчыну, ад чаго Канада толькі выйграе, бо ўзбагаціцца культурна.**

Я ёсьць таксама прыхільнікам пэўнай формы прызнаньня гэтых правоў на ўзроўні агульнанацыянальным і правінцыяльным. У Монтрэалі мы прабуем захаваць у школах пэўныя складнікі італьянскай культуры. Я думаю, што гэта вельмі важна, каб яны (імігранты) захавалі пэўныя складнікі сваёй культуры, на колькі гэта магчыма. Мне здаецца, што інтэграцыя тады была-б больш узбагачваючай, як для імігрантаў, так і для Канадыйцаў, таму што я веру ў мешаніну культураў, мешаніну расаў, у мешаніну народаў. Я ёсьць прыхільнікам спалучэньня культураў, якое спрычыніецца да ўтварэньня новай, багацейшай культуры.

**Заданьне наперадзе.** Першае заданьне, якое стаіць перад намі ў бліжэйшай будучыні — гэта ўстанаўленьне даверу паміж двума асяродзьдзямі (англамоўным і франкамоўным). Мяне ня цікавяць палітыкі й партыі; мяне ня цікавіць тая ці іншая (дзяржаўная) структура; мяне цікавіць перадусім зразуменьне адзін аднаго сярод Канадыйцаў, прызнаньне адзін аднаго, узаемная любоў і ўзаемнае тлумачэньне паміж групамі, што кажная зь іх мае на думцы, што яна думае ўнесьці ў палепшаньне жыцьця гэтай краіны. Я маю вялікую веру ў пашыральную магутнасьць розуму й магутнасьць добра зразумелай свабоды.

Квібэканцы маюць шмат усяго гэтага. Яны вучыліся гісторыі цяжкім шляхом і дзеля гэтага захавалі адну фундамэнтальную рысу: яны заўсёды мелі западозраньні што да Атавы (фэдэральнага ўраду), але ўсё-ж не хацелі адрывацца ад Канады.

Мне здаецца, што гэтыя рысы прадстаўляюць праўдзівы абраз цяперашняй сытуацыі. Я хацеў-бы, каб вы зразумелі, што калі містэр Джонсон (прэм'ер Квібэку) і містэр Лесаж (лідар квібэцкіх лібэралаў) супярэчаць адзін другому — дык яны адтвараюць сапраўдную рэальнасьць у Квібэку, таму што тут перакананьні знаходзяцца ў сталым руху — ад аднаго кірунку да другога. Абодвы яны хочуць ведаць, што з гэтага руху выйдзе. Аднаго мне шкада — гэта што тыя заўзятыя дыскусіі, якія адбываюцца ў Квібэку, ня цікавяць да такой меры рэшты Канады. Рэшта Канадыйцаў куды менш праймаецца гэтымі справамі, як мы ў Квібэку. Яны лічаць, што Канада для іх гарантаваная й што навальніца ў Квібэку зьнікне сама сабой. Я хацеў-бы, каб яны праявілі больш зацікаўленьня й глыбей пазналі праблему Квібэку.

Праблема гэтая датычыць нас усіх, і то да такой ступені, што мы павінны пазнаць яе сутнасьць ды прызнаць ёй належнае значэньне — падобна да таго значэньня пазытыўнага й творчага, якое мы прызнаём грамадзянству, што маюць усе грамадзяне. Клясычныя рысы добрага грамадзяніна мы прывіваем ня толькі ў добрых дзяцей, жанчын і некаторых мужчын, а ўсім (Канадыйцам). У такіх справах усе запрашаюцца да актыўнасьці.

**Клёд Раян**

Паводля „Канадыен Сін".

### МАЛІТОЎНІК

Выйшаў з друку першы беларускі ПРАВАСЛАЎНЫ МАЛІТОЎНІК, выдадзены БАПЦарквою. Атрымаць можна ў кажнай БАПЦаркве.

## АБВЕСТКА

У сыботу 25 травеня Аддзел БАЗА ў Нью Джэрзі ладзіць першы

## ВЯСЕНЬНІ БАЛЬ

у „ЛІБЭРТЫ БАЛРУМ" у Саўт Рывэры. У часе Балю адбудуцца выбары Князёўны Вясны. Багаты й танны буфэт. Грае ведамая беларуская аркестра У. Бычкоўскага. Пачатак а 8-ай гадзіне вечара. Білеты ў касе пры ўваходзе.

Калі Вы маеце кандыдатку на Князёўну Вясны або хочаце пачуць цудоўныя беларускія мэлёдыі ў выкананьні таго сьпевака, якога Вы чулі на Акадэміі 25 Сакавіка ў Нью Брансьвіку, дык абавязкава прыходзьце на Баль.

**Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі**